БІЗНЕС-КЛАС

## ДЗЯРЖКАМСТАТ ПАВЕДАМЛЯЕ: ЗАРПЛАТА РАСЦЕ

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведаміў, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у ліпені 1994 года склала 872191 рубель (у чэрвені была 569920 рублёў). У студзені—ліпені яна склала 426703 рублі і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 15,9 раза.

## ТУРЭЦКІЯ БІЗНЕСМЕНЫ ЦІКАВЯЦЦА БЕЛАРУССЮ

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Тансу Акандан і прэзідэнт Гандлёва-прамысловай палаты Беларусі Уладзімір Лясун правялі днямі сумесную прэс-канферэнцыю, прысвечаную маючаму адбыцца ў пачатку верасня ў Мінску пасяджэнню Беларуска-турэцкага камітэта дзелавога супрацоўніцтва.

У.Лясун азнаёміў журналістаў са станам эканамічных, гандлёвых і культурных сувязей паміж Турцыяй і Беларуссю і расказаў аб дзейнасці камітэта, які быў створаны два гады назад для развіцця супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі ў самых розных галінах.

На чарговае пасяджэнне камітэта ў Мінск прыедуць больш як трыццаць турэцкіх бізнесменаў, якія зацікаўлены не толькі ў насычэнні беларускага рынку сваімі таварамі, але жадаюць імпартаваць беларускую прадукцыю за мяжу. Прадстаўнікі заморскай дзяржавы выказалі жаданне прыняць удзел у прыватызацыйных працэсах у Беларусі, у банкаўскай і будаўнічай сферах. Мерапрыемствы, якія праводзяцца камітэтам у Мінску, будуць накіраваны на пошук узаемавыгадных кантрактаў.

Пасол Акандан выказаў надзею, што сумеснымі намаганнямі ўдасца прыцягнуць увагу ўрадаў да праводзімага мерапрыемства, а ў перспектыве прывесці да заключэння дагавора аб узаемнай абароне інвестыцый, які дасць магчымасць спрацідь прамыя гандлёвыя і вытворчыя сувязі і ліквідаваць двайное падаткаабкладанне. Чакаемы прыезд на пасяджэнне камітэта міністра культуры Турцыі дасць магчымасць таксама заключыць дагавор аб наладжванні культурных сувязей паміж іншымі рэспублікамі.

**Вера ГРАКОВІЧ.**

## ПЕРШАЕ МЕСЦА – "ЗАРЕ"

Падведзены вынікі Рэспубліканскага творчага конкурсу на лепшае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі прадпрымальніцкай дзейнасці. Яго арганізавалі Міністэрства культуры і друку і Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. Найбольш высокі ўзровень публікацый, пастаянная ўвага да праблем малога і сярэдняга бізнесу ў ходзе конкурсу прадэманстравала брэсцкая абласная газета "Заря", якая і стала пераможцай. У якасці заахвочвання калектыў рэдакцыі атрымаў грашовую прэмію ў памеры 1 мільён беларускіх рублёў. Другое месца прысуджана "Пухавіцкім навінам", трэцяе — журналістцы наваполацкай газеты "Хімік" Святлане Фролавай. Яны таксама атрымалі грашовыя ўзнагароджанні.

Журы конкурсу на чале з намеснікам міністра культуры і друку Іванам Карэндам адзначыла таксама высокую актыўнасць газет "Жыццё Палесся" (Мазыр) і "Высота" (Гродна) у асвятленні праблем прадпрымальніцкай дзейнасці.

Уручэнне дыпломаў і прэмій пераможцам конкурсу адбылося ўчора на семінары дзелавой прэсы ў Палацы прафсаюзаў сталіцы.

**БЕЛІНФАРМ.**

## РАЗНАСТАЙНЫ "АМКАДОР"

У Пінску завяршыўся кірмаш прадукцыі і паслуг канцэрна "Амкадор", які аб'ядноўвае больш як 70 прадпрыемстваў Беларусі.

Канцэрн робіць самую разнастайную прадукцыю — ад аўтобусаў і экскаватараў да лодак і калясак. Сёння ён мае намер наладзіць вытворчасць пасажырскіх аўтобусаў, экскаватараў, снегаачышчальнай тэхнікі і пад'ёмных кранаў. Усе чатыры заводы будуць пабудаваны ў Пінску.

З гэтай мэтай "Амкадор" ужо купіў неабходныя плошчы — недабудаваны гарадскі домабудаўнічы камбінат.

**Святлана КУЛІКОВА.**

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Надзвычайнае становішча патрабуе ГКЧП?

□ **Юрый АФОНІН,**
**кандыдат гістарычных навук**

*Успамінаць пра тую ці іншую падзею мінулага толькі для таго, каб выклікаць у грамадскасці пазітыўныя ці негатыўныя адносіны да яе і яе ўдзельнікаў, а не для пошуку рашэння сучасных сацыяльна–эканамічных праблем, — тое ж, што забіваць цвікі мікраскопам. На жаль, часцей за ўсё даводзіцца сутыкацца менавіта з такой практыкай. Вось і чарговая гадавіна каротка–тэрміновага кіравання ГКЧП СССР была адзначана ў сродках масавай інфармацыі толькі вызначэннем пытання "Хто і ў чым вінаваты?".*

Былы "фароскі вязень" М.С.Гарбачоў двойчы адмаўляўся ад сувязей з "гэкачэпістамі" ў праграме "Подробности" тэлеканала "Останкино"... І практычна нічога не было сказана пра тое, якія ўрокі можна атрымаць з гэтай падзеі, хоць вядома, што пасля яе агульнасаюзнае надзвычайнае становішча распалася на рэспубліканскія. Улады ўсіх без выключэння рэспублік былога СССР у большай ці меншай ступені карыстаюцца надзвычайнымі мерамі для вываду сваіх краін з пакінутага ім сацыяльна-эканамічнага крызісу і патрабуюць прадастаўлення яшчэ большых паўнамоцтваў. І ў дадзенай сітуацыі не перашкаджае прааналізаваць прычыны няўдачы ГКЧП, каб ведаць: дзе, калі і якімі мерамі неабходна карыстацца, бо, як сведчыць сусветны вопыт, выхад з крызісных сітуацый заўсёды патрабуе прымянення якіх-небудзь надзвычайных мер.

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што надзвычайнае становішча ў СССР было аб'яўлена хутка пасля таго, як прайшоў "парад рэспубліканскіх суверэнітэтаў" 1990 г. А ён быў следствам таго, што раней саюзнае партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва не магло забяспечыць нармальнай дзейнасці адзінага народнагаспадарчага комплексу краіны, аб'явіла і пачало рэалізоўваць курс на самафінансаванне і самазабеспячэнне рэспублік без уліку таго, што самастойным рэспублікам Цэнтр, які нічога не дае, будзе не патрэбны. І "парад" адзначыў наступленне таго этапа ва ўзаемаадносінах Цэнтра і рэспублік, калі яны прадаўжалі, у агульным, прызнаваць яго, але выконвалі толькі тыя распараджэнні, якія лічылі рэальнымі. У гэтых умовах гарантый на тое, што надзвычайныя меры будуць рэалізаваны ўсюды, не было.

Праўда, пэўную надзею на падтрымку гэтых мер большасцю насельніцтва ўнушала саюзнаму партыйна-дзяржаўнаму кіраўніцтву тое, што на рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. 76 працэнтаў удзельнікаў на пытанне "Ці лічыце вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі, у якой будуць у поўнай меры гарантавацца правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасці?" адказала станоўча. Аднак неабходна ўспомніць, што рэферэндум адбываўся ў перыяд росту незадаволенасці насельніцтва рэспублік вынікамі пачатку разрыву міжрэспубліканскіх сувязей: масавымі беспакаранымі зрывамі ўзаемных паставак паліва, сыравіны і камплектуючых вырабаў, скарачэннем у сувязі з гэтым выпуску тавараў народнага спажывання, павышэннем цэн на іх... Таму многія з галасаваўшых за Саюз зрабілі гэта, бо спадзяваліся, што яго кіраўніцтва зможа "навесці парадак".

Аднак, каб навесці яго або хаця б прыпыніць паглыбленне эканамічнага і палітычнага крызісу, неабходны былі сродкі. А іх у саюзнага Цэнтра не было. Не бачыў ён і іншых крыніц эфектыўнага папаўнення сваёй казны, акрамя замежных крэдытаў, хоць знешні доўг СССР і так ужо вырас за 1985—1991 гг. з 31 да 71 мільярда даляраў. Для "выбівання" новых крэдытаў і атрымання адтэрміноўкі плацяжоў запазычанасці па старых 15 ліпеня 1991 г. была арганізавана паездка М.С.Гарбачова для сустрэчы з кіраўнікамі ўрадаў "вялікай сямёркі". Але на гэты раз замежныя "спонсары" абмежаваліся ў асноўным абяцаннямі, і надзея на магчымасць павысіць "рэйтынг" Цэнтра эканамічнымі мерамі адпала.

Неабходна таксама адзначыць, што пытанне на рэферэндуме было сфармулявана так, што станоўча на яго адказаць маглі і адказалі асобы даволі розных палітычных поглядаў. А калі прэзідэнцкая партыйна-дзяржаўная "каманда" прыступіла да канкрэтызацыі "абнаўленняў" Саюза, колькасць патэнцыяльных яе староннікаў пачала хутка скарачацца.

Пасля апублікавання 9 жніўня праекта новай праграмы КПСС "Сацыялізм, дэмакратыя, прагрэс", у якім была зафіксавана адмова яго аўтараў ад камунізму, як канчатковай мэты партыі, якая нібыта выказвала інтарэсы ўсіх сацыяльных слаёў, "адсеяліся" нязгодныя з такой яе трансфармацыяй.

Апублікаваны 15 жніўня "канчатковы" праект саюзнага дагавора "Дагавор аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў", у якім, як ужо бачна з назвы, прадэманстраваў адмову "каманды" ад сацыялізму і Саветаў і яшчэ больш скараціў колькасць тых, хто ёй спачуваў. Акрамя таго, нягледзячы на тое, што ў праекце шмат фраз пра ўлік інтарэсаў рэспублік, у ім яўна прасочвалася закамуфліраваная ідэя захавання дыктату Цэнтра і, у першую чаргу, самога прэзідэнта, і гарантыі таго, што такі праект будзе падпісаны 20 жніўня, не было. Таму ў тым, што напярэдадні яго падпісання, у ноч з 18 на 19 жніўня, было аб'яўлена становішча, якое пазбаўляла рэспублікі свабоды выбару, не было нічога дзіўнага.

Для дадзенага аналізу не так ужо важна, якой мэты дабіваліся "гэкачэпісты": захаваць Саюз, вывесці яго з крызісу сілавымі метадамі ці проста ўтрымаць уладу. Не самае галоўнае і вызначэнне ролі, якую выканаў у гэтай гісторыі былы генсек і прэзідэнт СССР ці які-небудзь іншы персанаж...

Галоўнае іншае: вызначыць, што ў гэтых умовах ГКЧП быў асуджаны на паражэнне таму, што, па-першае, ён не меў сродкаў і не змог нічога зрабіць для рашучага, нават мінімальнага, паляпшэння матэрыяльнага становішча насельніцтва і не даў нічога, акрамя абяцанняў павялічыць дачныя надзелы да 0,15 га, пачаць барацьбу са спекуляцыяй, карупцыяй і г.д. у той час, як яго праціўнікі знайшлі і выдзелілі немалыя сродкі для матэрыяльнай узнагароды сваіх староннікаў! Па-другое, надзвычайнае становішча ім было аб'яўлена наогул без арыентавання на канкрэтныя сацыяльныя слаі, і таму супраць яго выступілі практычна ўсе: набраўшыя сілу ў перыяд "перабудовы" прадпрымальнікі, звязаныя з імі работнікі парт- і дзяржапарату, адміністрацыі дзяржпрадпрыемстваў і арганізацый, якія ўключыліся ў камерцыйную дзейнасць, функцыянеры палітычных партый і арганізацый, работнікі сродкаў масавай інфармацыі, рабочыя і служачыя, якія былі пазбаўлены права на забастоўкі... І выніку не давялося доўга чакаць.

Можна, вядома, і далей аналізаваць прычыны няўдачы ГКЧП у жніўні 1991 г., але гэтага дастаткова, каб пераканацца, што падзеі мінулага заслугоўваюць, каб пра іх успаміналі.

ЛЕТА-94

## НА ПЛЫЦЕ ПА НЁМАНЕ

Другі год маладыя мастакі з розных гарадоў Беларусі летам плаваюць на плытах па беларускіх рэках. Плывуць у асноўным па начах, а днём спыняюцца ў маляўнічых месцах, сустракаюцца з людзьмі, робяць накіды будучых карцін. У мінулым годзе падарожнічалі ад украінскага Навеля да Пінска. Зараз прайшлі па Нёмане ад Стоўбцаў да Ліды. У складзе экспедыцыі — маладыя мастакі з Баранавічаў муж і жонка Іван і Віка Якушэнкавы, пінчане Вера Маліноўская і Сяргей Піліповіч і іх нясвіжскі калега Уладзімір Клімушка.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

*На Мінскім авіярамонтным заводзе прыступілі да асваення рамонту новай авіяцыйнай тэхнікі для краін блізкага замежжа. Днямі на ўзлётна–пасадачную паласу аэрапорта "Мінск–I" прызямліўся самалёт "ЯК–42", які прыбыў з суседняй Літвы. Гэта яшчэ адзін крок да ўмацавання дзелавога і сяброўскага супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі.*

*Як лічаць на прадпрыемстве, рамонт лайнера тут плануецца скончыць ужо ў лістападзе.*

*— І хаця машына прынцыпова адрозніваецца ад тых, што рамантавалі на заводзе да гэтага часу, — гаворыць яго дырэктар А.Г. Ямаў, — у нас ёсць спецыялісты, якім пад сілу гэта адказная праца.*

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.**

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

# Была ў чалавека мара

Была у чалавека мара... Няхай зусім непрыкметная на фоне цяперашніх праблем і глабальных перамен у жыцці, але была. Хацелася яму на старасці гадоў стаць акцыянерам двух добрых брэсцкіх прадпрыемстваў — завода "Газаапарат" і прадпрыемства "Дываны Брэста". Таму адным з першых атрымаў сертыфікат "Маёмасць" і ледзь не дні лічыў, што засталіся да 1 ліпеня. Аднак так ужо атрымалася, што не змог ён трапіць першага чысла ў ашчадбанк. А калі зайшоў туды на трэці дзень актыўнай прыватызацыі, то аказалася, што якраз акцыі "Газаапарата" і "Дываноў Брэста" ўжо прададзены. Узамен прапанавалі чалавеку акцыі прадпрыемстваў з іншых галін, але ён "зацыкліўся" на Брэсце. "Хачу сваімі каштоўнымі паперамі развіваць і памнажаць эканоміку роднага горада",— кажа. У такім выпадку яму параілі чакаць.

Але чалавек быў нецярплівы і пайшоў па інстанцыях шукаць праўду і абарону. Яму выдавалі толькі інфармацыю. Гаварылі, што акцыі "Газаапарата" размеркаваны паміж іншымі абласцямі, а ў Брэст трапіла іх менш чым тысяча. Запэўнівалі, што не ўсе акцыі аддало насельніцтву акцыянернае таварыства "Дываны Брэста". І тут жа агітавалі за каштоўныя паперы АТ "Віцебскія дываны" і "Гомельшпалеры". Але чалавек стаяў на сваім. "У імя чаго?— здзіўляліся касіры,— Каб за акцыю таго ж "Газаапарата" ўжо расплачвацца не адзінаццаццю чэкамі, як сёння, а дваццаццю. Бо чэкі ніхто не індэксіруе". Не ведала касірка, што зрабіла чалавека ўпартым...мара.

Не праясніла сітуацыю наведванне абласных упраўленняў ашчадбанка і прыватызацыі дзяржмаёмасці. Чалавеку спачувалі і звычайна ківалі на ўрад: маўляў, ён прыдумаў такі нязручны метад народнай прыватызацыі. І атрымлівалася з іх слоў, што яны якраз і ні пры чым, маўляў, зрабілі ўсё, што ад іх запатрабавалася і залежала. Хоць на самай справе далёка няпросты працэс прыватызацыі перадаверылі касірцы з ашчадбанка. А тая, як лянівая прадаўшчыца таннай кілбасы, адпусціла 30—40 пенсіянерам на ўсе іх чэкі акцыі "Газаапарата" і... супакоілася.

Цяпер ля касы няма чаргі, пазяхаюць толькі адзінокія наведвальнікі, і касірка чакае чарговага паступлення пакета акцый. Але ж ля запаветнага акенца пабывала толькі каля двух працэнтаў уладальнікаў сертыфікатаў. І што будзе рабіць банк, калі яго дапамогі пачне чакаць большасць уладальнікаў чэкаў?

І яшчэ падумалася чалавеку. Сёння, быццам грыбы пасля дажджу, растуць розныя ўпраўленні і аддзелы па прыватызацыі. У выніку за кошт падаткаплацельшчыкаў жыве цэлая армія новых для нас чыноўнікаў, якія, па сутнасці, займаюцца тэхнічнай работай па размеркаванню чэкаў, акцый і да таго падобных папер. Ніхто працэсам прыватызацыі не кіруе, не ўмешваецца ў яго ход. Таму і ўзнікае пытанне, а ці патрэбна прыватызацыя ў такім выглядзе? Таму і хочацца ўсклікнуць услед за прэзідэнтам Лукашэнкам: "Хопіць падманваць народ!"

**Павел БЕНЗЯРУК, г.Брэст.**

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

# Зоркі апоўдні

□ **Мікола КАПЫЛОВІЧ**

Старая, урослая ў зямлю, нібы пад цяжарам лёсу хата, карова з задумлівымі вачыма, поўнымі бакамі і распухлым, шырокім, што дзяжа, вымем стаіць у двары і жуе жвачку. "Пацалаваўшы" на дзвярах замок, пайшоў да суседзяў шукаць гаспадара хаты. Нарэшце, у трэцім ці то ў чацвёртым двары пажылая жанчына "дала каардынаты", дзе можна знайсці Пятра Іванавіча Атырку:

— У зямлі ён... Дзе ж яшчэ можна яго знайсці.

— Памёр? — перапалохаўся я. — І даўно?

— Жывы і здаровы, — супакоіла мяне жанчына і растлумачыла: — Калодзеж недзе капае. Вось і кажу, што ў зямлі сядзіць Іванавіч.

У двары на самай ускраіне вёскі сярод жаўтагрывых сланечнікаў завіхаліся людзі. Ладнаваты грудок мокрай гліны, а побач — глыбокая нара калодзежа, апаясаная каменнымі кругамі. Унізе цемень — страшна туды глянуць.

— Чуеш, Іванавіч, да цябе карэспандэнт прыехаў! — крыкнуў у чорную прорву гаспадар двара, выцягваючы адтуль на вяроўцы вядро з новай порцыяй гліны.

— Не... з-зу...

— Што ён сказаў?

— Не вылезу, кажа, пакуль да вады не дакапаюся.

Нарэшце, праз гадзіну вядомы на ўсю Мядзельшчыну водаздабытчык вылез з зямлі. Вынырнуў раптоўна, як нячысцік з таго свету. Кастлявы. Сівы. Дробны ў целе. А я думаў, што ўбачу волата. Па матацыклетным шлеме сцякала жоўтая грязь. І ўвесь ён быў мокры, як певень у зацяжны дождж. Ён па-гусінаму атрос з сябе ваду, сеў на прызбу — нерухомы, згорблены, нібы сагнуты пад цяжкімі ўдарамі цвік. Лёс і на самай справе біў яго не раз, але ўвагнаць па самую плешку, каб зусім ужо не вывернуўся, не змог. Дзяцінства было галодным, калі ў сям'і дзяцей было больш, чым выструганых бацькам лыжак. А пра хлапечыя гады лепш не ўспамінаць. Эшалоны, сабакі, эсэсаўцы. Чужая зямля, а яму ўсяго пятнаццаць гадоў. Калі вярнуўся з нямецкай няволі, пайшоў вучыцца ў педінстытут. Потым вучыў вясковых дзяцей нямецкай мове.

— Я, паміж намі, — успамінае ён, нібы выцягвае каламутную ваду з глыбокай крыніцы, — нямецкую, кхе, мову заднім месцам засвоіў. Як агрэе немец ботам ніжэй спіны — на ўсё жыццё запомніш, што значыць "арбайтэн". І гэтак — увесь слоўнік. У інстытуце адны "пяцёркі" былі...

Пасля дзяцей больш за ўсё Пятро Іванавіч любіць прыроду. Усё да дробязей пра яе ведае, можа без супыну днямі апавядаць пра птушак, звяроў, пра кветкі, лес, палі. А тут яшчэ раптам пачаў вывучаць падземныя воды, жыццё крыніц. На якой глыбіні залягаюць, куды цякуць і дзе іх трэба шукаць.

— Калі чалавек ні разу не аслупянеў перад дзівам прыроды, не памаліўся ёй у душы, значыцца, ніколі ён не жыў на зямлі, а як сляпы воран праляцеў над пусткаю, — кажа Пятро Іванавіч.

Што ж тычыцца падземнай вады, дык ён бачыць яе скрозь зямлю, нібы лініі лёсу на сваёй цупкай ад мулякоў далоні.

— Гэты калодзеж, — ківае ён, — трыста сорак пяты ў мяне.

— Які?

— Трыста сорак пяты, — паўтарае. — Але я на паўтысячы нацэліўся. Так што доўга яшчэ мне трэба жыць. Калі выйшаў на пенсію, хацеў абзавесціся багатай гаспадаркай, каб людзям прыклад падаць. Але багатым гаспадаром так і не стаў. Аднойчы ўбачыў, як бабуля Адэля, сагнуўшыся ў крук, цягае ваду на каромысле ажно з другога канца вуліцы, і вырашыў ёй задарма выкапаць калодзеж. Злавіў на вуліцы двух лежняў, прывёў іх сілком у двор бабулі і сказаў: "Тут выкапаем калодзеж". Вопыту ніякага тады ў мяне не было, — прыгадвае цяпер Іванавіч. — Дагробся да вады, і тут плывун мяне накрыў — мокрая гліна з пяском. Засмактала па самыя грудзі. Ну, думаю, канец мне. Абібокі мае некуды зніклі. Зірнуў угару, а там, на небе, зоркі, як пчолы ў сотах, мітусяцца. Поўдзень на двары і раптам — зоркі! Дзіва! Нейкая невядомая сіла рванула мяне да тых зор, а тут і людзі падаспелі, выцягнулі з калодзежа. Нібы з таго свету.

Шмат у вёсцы старых адзінокіх бабулек. І амаль усім ім падараваў Пятро Іванавіч па калодзежы. Без платы. Нават на магарыч не згаджаўся. Плацяць яму толькі тыя, хто багаты, у каго хаты пад бляхай ды машыны ў гаражах.

— Нябожчык, наш настаўнік Іван Аляксеевіч Кучарэнка, падараваў мне за калодзеж капялюш і гальштук, — усміхаецца ён. — А я і ў маладосці не насіў іх. Дык і цяпер новенькія вісяць у шафе... Як добрая памяць пра Івана Аляксеевіча.

Калі я пакідаў двор, Пятро Іванавіч ізноў сабраўся лезці ў калодзеж. Падаў мне на развітанне руку і сказаў:

— Калі будзеце вяртацца ў горад, паспытайце вадзіцы з маёй крыніцы, якую я выкапаў каля шляху. Не вада — шампанскае!

Змяркалася, калі я наблудзіў на калодзеж Пятра Іванавіча. Але мяне апярэдзілі на "Вольве" два хлопцы ў скураных тужурках. Няйнакш, нейкія камерсанты. Запыленыя, засмяглыя ад доўгай дарогі, яны, распрануўшыся па пояс, мыліся крынічнаю вадою, охалі і ахалі ад асалоды:

— Эх, харошая вадзіца! Чысцюткая, як сляза... Кажуць, такія калодзежы, як гэты, капае былы настаўнік... І грошы за сваю працу не бярэ. Во дзівак!

Яны асвяжыліся крынічнаю вадою, узбадзёрыліся, і хутка чырвоныя агеньчыкі іхняй машыны залыпалі ў паўзмроку і паплылі, панесліся на шашу. А я глядзеў наўздагон машыне і думаў: гэтыя хлопцы будуць мець шмат асалоды ад свайго багацця, але яны ніколі не ўбачаць зорак сярод белага дня.

ІНФА-КРЫМ

## Факты ёсць, але справы яшчэ няма

Справа, звязаная са зняццем прэзідэнтам з пасады былога міністра лясной гаспадаркі, яшчэ чакае свайго працягу. Як паведамілі карэспандэнту ў Пракуратуры рэспублікі, крымінальная справа супраць Георгія Маркоўскага яшчэ не ўзбуджана, паколькі дакументаў, прадстаўленых з адміністрацыі прэзідэнта, аказалася недастаткова. Цяпер у абласных лесагаспадарчых аб'яднаннях праводзіцца рэвізія, і толькі пасля яе завяршэння магчыма будзе вырашыць пытанне аб узбуджэнні крымінальных спраў.

## Пад варту за перабор

Як паведамілі ў Пракуратуры рэспублікі, ні адна з пяці крымінальных спраў, узбуджаных у ходзе кампаніі па выбарах першага прэзідэнта Беларусі, яшчэ не завершана. Аднак адзін "пацярпеўшы" ўжо ёсць. Мерай пакарання таго, хто "асабліва вызначыўся", дапусціўшы, як выявіла следства, істотны перарасход бюлетэняў для галасавання, выбрана ўтрыманне пад вартай.

Аднак Цэнтральная камісія па выбарах па-ранейшаму пераканана, што парушэнняў заканадаўства, здольных карэнным чынам уплываць на вынікі выбараў, дапушчана не было.

**Святлана КАЛІНКІНА.**

## ...А потым узялі тых, хто бярэ

Пракуратура Рэспублікі Беларусь цяпер праводзіць следства па фактах атрымання хабару службовымі асобамі адразу некалькіх банкаў. Паводле звестак, хабар браўся за незаконны перавод камерсантам буйных сум у наяўныя грошы. Адзін з падазроных — кіраўнік Заводскага аддзялення ашчадбанка рэспублікі — ужо арыштаваны. Іншыя падрабязнасці гэтай справы ў інтарэсах следства пакуль не раскрываюцца.

## Наводчык смерці

Карэспандэнту сталі вядомы новыя факты па справе аб забойстве журналіста адной з мінскіх газет А.Гулава. Як паведамілі ў Пракуратуры рэспублікі, да трох раней затрыманых па падазрэнню ў гэтым злачынстве прыезджых прыбавіўся мінчанін, які выконваў ролю наводчыка. Па сутнасці, у многім "дзякуючы" менавіта яму, хоць сам ён у нападзенні на кватэру не ўдзельнічаў, загінуў журналіст.

Наводчык пражываў у суседнім пад'ездзе з А.Гулавым і быў знаёмы з яго сынам. Напярэдадні злачынства ён заходзіў у кватэру пацярпеўшых і бачыў у прыхожай каробкі ад імпартнай апаратуры. Даведаўся ён і аб тым, што гаспадар кватэры знаходзіцца ў камандзіроўцы, а яго сын — на адпачынку ў Крыме. У кватэры адна жанчына. Аб гэтым ён і паведаміў аднаму з непасрэдных выканаўцаў злачыннай акцыі. Аднак у суботу позна вечарам А.Гулаў, на сваю бяду, вярнуўся з камандзіроўкі. Злачынцы, якія ўварваліся ў кватэру ў нядзелю раніцай, былі непрыемна здзіўлены, калі ўбачылі ў ёй гаспадара. У ход быў пушчаны абрэз.

**БЕЛІНФАРМ.**

